

## КАМЕЯ

Хвіля б'ецца на ветры —
Здранцвее тугое паветра.
Дзень сцякае вадою —
Скалее ў прыдоннасці
                    ўсплёск.
Век сыходзіць каменнем —
Падрузнуць каменныя нетры:
Распадуцца на мёд пераспелы
                    і выцвілы воск.

Хто супыніць шляхі,
Што вяртаюцца зноў да пачатку?
Хто кругі перарве,
Што зліліся ў спіраль наўздагад?
Хто ідзе па Зямлі —
ці то продкі мае, ці нашчадкі?
Чый прасвет заглушыла прырода?
...Слаіцца агат...

Выпадковы разец
задрыжыць у жалезнай застудзе,
Пераменлівы профіль
васковую плынь абміне,
І жанчына,
якой між людзей не было і не будзе,
Незабыўным агатавым вокам
Зірне скрозь мяне.

## ТУРМАЛІН

> Крышталь турмаліну расшчэплівае скразны прамень святла на два прамені.
>
> *Акадэмік Ферсман*

Калі напаткаю смужыстую грань
І ясна
      дарогу за ёй адгадаю,
Далёкая мама,
            яшчэ маладая,
Са мной — з раўнагодкаю —
                  побач устань.

Мы ўзыдзем на злом,
            дзе скажае шляхі
Каменная шчылкасць дарослага свету.
Ты вочы заплюшчыла:
            спелае лета.
Я вочы расплюшчыла:
            чэрвень сухі.

Павольна
      былое святло прамільгне.
З прышчэпленай яблынькі
            падае яблык.
Намуленым нерушам,
            полем азяблым
Да позняга дрэўца ты йдзеш
Ад мяне.

Астылую сцежку
      падвоіць міраж.
На дзве жываточынкі
            доля паб'ецца:

Бягуць —
і ніводная не азірнецца...
Каб толькі другую не ўбачыць
наўсцяж...

## БУРШТЫН

Аблашчаны сонцам
каменьчык бязродны.
Бурштын?
У дні саламяным
гранітная ноч патанае.
У выстылым горадзе
цепліцца зорны ўспамін,
І, як звеставання,
світанку чакае
Даная...

На промнях шляхоў
Астываюць сляды і жарства.
Скульптурная ціша віруе
ў скале маналітнай.
Святло і каменне —
Рассеяны цень хараства
І шэпт невымоўны
У гэтым адзінстве нязлітным.

А мы, ўкамянелыя
ў мроі і слёзы свае,
Праз шыбку бурштыну
Хутчэй адчуваем, чым бачым,
Як недзе ў душы
незямное свяціла ўстае
І ў свет непраглядны
зрываецца промнік юначы.

## МАРМУР

Свячэнне ўкамянелай глыбіні
Натхняе
недасяжнай чысцінёю,
Як першы снег у памяці:
Зірні,
Пакуль зіма не легла над зімою.

Кубеліцца святая прастата
Пад рэчышчам, пад хваляю, пад пенай,
Пад вечнасцю апошняга пласта,
Што ў мроі нараджаецца
імгненнай.

## ГАГАТ

У Старажытным Егіпце з чорнага каменя гагату рабілі люстэркі.

Ты прамільгнеш,
да цемры ідучы,
Лілейна-белай вопраткай багатай
За шатамі
егіпецкай начы
Ля нільскага бяззорнага гагату.

Праявіцца з драпежнай чарнаты,
З праменняў,
заламаных на паверхні,
Дрыготкае аблічча.
Ты?
Не ты?
І хваля часу
на пяску зашэрхне.

Сляза закамянела ці смала —
Пульсуе люстра
паўтарэннем спробы:
Стрымаць пялёсткі
плыннага святла
Над глыбінёю
смерці і жалобы.

## ЖАМЧУЖНЫЯ ПАЦЕРКІ

Мы курчымся ў розных улоннях
да спелай пары,
І кожная часу свайго прычакае пакорна,
І кожная выйдзе самотна
з-пад крохкай кары...
Ды нехта нас лепіць
падобнымі коштам і формай.

Аднолькавыя
і па колеры, і па вазе,
Амаль неадрозныя
нават у дробным калецтве,
Няцямна стачыліся
ў шчылкай замкнёнай чарзе,
Навек прыціраемся
ў познім нявольным суседстве.

Каштоўнасць — дарунак прыроды,
Ці ж гожасць у тым,
Каб ціха здзіўляць
боскім дарам
Сусвет каламутны,
Калі прадзімаюцца душы
прадоннем пустым
І шоргае нітка
ў сляпых камячках перламутру?

## БІРУЗА

Існуе легенда, паводле якой біруза ўтварылася з костак тых, хто загінуў ад кахання.

Цёплы пыл
скаламуціў абсяг.
Млечны Шлях
перацёк у азёры.
Прадчуваючы вечны працяг,
Асыпаюцца кветкі і зоры.

Рэдкі колер зямного святла.
І жадання малочная спеласць.
Дзьмухаўцовая мара крыла
Праступае ў расе
скамянела.

Усляпую, навобмацак
час
Затуманьвае розумам
сэрцы.
Ён вядзе невідушчымі нас
Да таемства
кахання і смерці.

## АЛМАЗ

Пазначаны святлом
Нязводнага кахання,
Прарочай чысцінёй
абвостраны наскрозь,
Адлучыць назусім
Без хвілі хвалявання:
Тут — выстылае неба,
А там — зямная вось.

Хтось крочыць па слядах
паўсюднага графіту,
Што мякка, на паверхні
абходзіў белы свет,
Што мерку вызначаў
па ўласным, па аджытым
І ўлізваўся дашчэнту да смерці
ў трафарэт.

А ён
адкрэсліць шлях —
Празрыстая пустэльнасць.
А ён
акрэсліць боль —
Расколіна ў зване.
І раптам пракляне
алмазную суцэльнасць.
І пазайздросціць пылу.
І пылу не здзьмухне.

## ЮВЕЛІР

Калі навечна вызваліў ён грані,
Калі з кутоў бліскучы пыл скрышыў,
Калі таварны стаў
                    прыродны камень, —
Сышло натхненне з майстравай душы.

Аправіць
          адмыслова і багата,
Схавае ў аксамітны футарал...
Імкнуцца долу
               спелыя караты,
Як пачуццё,
            якога не чакаў.

І блісне дыямент
                 на раздарожжы
Малой дваінкай існасці зямной,
І ў лужыне абудзіцца...
Дык, можа,
Ён да натуры вернецца самой?

І ў летуценнай ювелірнай форме,
У жудаснай дакладнасці кута
Паспее пакрывіцца,
                   слепа-чорны
Усюдыісны
Цень ад капыта?

# РЭЗЧЫК ЛЮСТЭРКАЎ

Будзённы божы дзень памеркнуў
У ненаўмыснай варажбе
Сярод бяспамятных люстэркаў,
Што лёс
пазычылі ў цябе.

Ты ім адпомсціў:
Гром і вецер
У люстраную гладзь схаваў.
Ніхто навокал не прыкмеціў,
Як ты
Сусвет адлюстраваў.

А што за люстрам?
Смутак цесны?
Празрысты одум?
Тло і прах?
Ці здолее алмаз рамесны
Наўсцяж раскрэсліць
тайны шлях?

Ды па прасвету срэбнай пены
Правесці веру між пакут?..
Узлёт імклівы,
Спад імгненны —
А ты маўчыш,
загнаны ў кут.

І скрозь цябе глядзяць дзве прорвы —
Два вокі сну —
адно ў адно.
Абрыс твой працінаюць зоры:
Шукаюць за душою
дно.

А перад свечкаю грамнічнай
Застыў на гранях пустаты
І ў цень твой
                    затуліў аблічча
Натоўп людзей,
Такіх, як ты...

## ГУТНІК

Ты імкнуўся ахутаць планету
ахоўным дыханнем?
Выдзьмуць птушкам
шкляныя нябёсы без хмар і вятроў?
За саломінку
Моцна трымаўся
і дзьмуў без адхлання —
Ды замкнулася сфера,
цябе зацягнуўшы ў нутро.

Ашклянелы абшар
ад вачэй адкаціўся імкліва.
Падрабнелі рамонкі
абапал скажоных дарог.
А празрыстае неба
Услед усміхнулася крыва,
Як задыханы пыл
на суцэльныя вокны налёг.

Вечны рух пераважыўся
матавым шклом запацелым.
Ты стварыў новы свет —
дык спачні ж ад распаленых мук...
Са стыхіі
ў шкляную шкарлупіну
птушка ўляцела:
«Прачынайся, сынок...» —
І саломінку вырвала з рук.

# ЗВЯРЫННІК[1]. ПЕРАД УЗЫХОДАМ НА ВОГНІШЧА

Звер апошні мой,
свойскі і верны!
Калі позіркі
плошча зграбе,
На пацеху магнатам і чэрні
Я навечна ўпільную цябе.

Безнадзейнай пяшчотай аблашчу.
Іскры ў поўсці
са свету зжыву.
У нямоглую смаглую пашчу,
Як на плаху,
злажу галаву.

І да самае смерці дарую
Усё, што будзе,
І ўсё, што было:
І вяшчунную лапу сляпую,
І драпежна-святое крыло,

На ўзвей вецер падзёртую
Веру,
Варажбу на абсмалках касцей
Я дарую
бязмыснаму зверу
І ніколі нікому
з людзей.

---

[1] У сярэднявеччы — чалавек, што пільнуе звярынец.

Боль раз'юшаны,
Блудны Агонь мой!
Мы спяклуемся і дагарым,
Каб ад вулічных звыклых агоній
Уцякаў
непрыручаны дым.

## ПАЛЯЎНІЧЫЯ

Хіжы воўк-адзінец
падуладны бясспрэчнай прыродзе.
Абхітрыўшы і вецер,
і студзеньскі воўчы мароз
Па заследжанай сцежцы
Ахвяру
да пасткі прыводзіць
І знікае ў блакітных цянётах
лясоў і нябёс.

Паралельна
слядам неастылым
Ідзе паляўнічы,
Абвастрыўшы да гарту звярынага
погляд і слых.
Ён прачнуўся да свету,
У цемры малітву пазычыў
І ў драпежнай пагоні
чужую свабоду спасціг.

А сцяжыны — сялянскія косы —
не помняць адхлання —
На любым скрыжаванні
вартуюць абраную сыць.
Смерць
на чорную працу збіраецца.
На паляванне.
І ўздыхае, і стогне,
што нудна даводзіцца жыць.

## ГАНЧАР

Здань сасмяглая,
кáня сумная
Глебу
крыламі ўскалыхне...
Асушылі, як чашу,
зямлю маю
І пранеслі міма мяне.

Глеба чорная,
ноч палеская
Адляцела шукаць раллю.
Я на донцы зямным патрэсканым
З поснай гліны
чашу ляплю.

* * *

Дыханнем перавеяны пясок,
Зашэрхлы след,
чужога мора поўны.
Што за багі
зляпілі той гаршчок —
Ні гліны, ні кружала, ні гартоўні?

Ці вера запякалася
на шкло?
Ці здрада адпускалася
на вецер?
«А каб табе ды донца не было
Ні на стале,
ні ў свеце,
ні ў засвецці!»

І навылётна трэшчына лягла
Між нерухомым ветрам
і сцяною.
І неба асыпалася са шкла —
Аж стала прорва — да мяжы —
шкляною.

І цень,
Ад прорвы большы на вяршок,
Адно вачыма тую бездань мерыць...
Змяняй на гліну,
Майстра,
свой гаршчок.
Дакуль сціскацьмеш трэшчыну
аберуч?

## САДОЎНІК

І пялёсткаў — да самых вачэй...
І навекі —
зязюліных спеваў...
Існую ўсё прасцей і хутчэй,
Укарэнены ў часе,
што дрэва.

Цэлы век ні агнёў, ні жарсцей.
Сад запрудзіў шляхі і дарогі.
Ён жыве,
як гадуе дзяцей:
Дзень пры дні,
Ні знямогі, ні змогі.

Ад прышчэпу адлічвае род.
Непрыкметна лістоту гартае.
Не пытае,
ці родны той плод,
Што ў яго на руках падрастае.

І ападку
гудзе землятрус.
Млее Спас,
перасохлы дазвання.
Сад са смерцю наладзіў хаўрус,
Бо даўжэй за быццё
выспяванне.

І калі недаспелку сарвеш,
Паспытаеш і кінеш з праклёнам,
Ведай —
яблык нальецца, як верш,
Гэты яблык зялёны...

# РАЗЬБЯР

Я разгледзеў цябе
за лісцём, да грудзей прыкарэлым.
Я ўзіраўся.
А цень
сарамліва прыпаў да травы:
Так свяцілася ты!
І прачыстым здавалася цела,
Калі я пад карою намацваў
твой вобраз жывы.

Я русалчыну песню падслухаў
за спевамі птушкі,
Пералётнай душы,
Што ўзрасла на карэнні чужым.
І сталістай сякернай мелодыяй
ліпу разгушкаў,
І сардэчную тайну лістка
па сужылках пражыў.

А пакуль церусілася
рэха падвялага цвету
Ды паганскі нектар
у асклепак збірала пчала,
Ты з драўлянае хвалі
ступіла на ўскраіну свету,
На мяне не зірнуўшы,
Па ветры
на храм узышла.

Ты да неба імкнулася,
быццам лісток да палёту.
Праступаў на далонях
раслінны малюнак густы.

Да плячэй дакрануўся
імгненны пакроў пазалоты!
І дарос да маланкі
няўрымслівы дым залаты.

* * *

Змерзла ў нізкіх нябёсах
сівая наскрозь бліскавіца.
Ці шукала гняздо?
Ці знаходзіла попел і тлен?
Ці галіны яе
параслі вечнабелай іглічай.
Калі цень Перуна
прытуліла ў чырвоным дупле?

# МОСТ

Я на мосце жыву.
У спакоі
Ён смалой і вадою прапах.
Дзве дарогі
слядоў не загояць
І на мосце пярэйдуць
у шлях.

Ледзьве ступіш —
груваскія бёрны
Стануць кладкаю, востраў,
як нож,
А над плыннай скрозьдоннасцю чорнай
Судны цень прабяжыць басанож.

Дзень і ноч не сыходзячы з моста,
Урастаю ў драўніну гадоў.
Дзве дарогі разлучацца проста.
І ні пылу на іх.
Ні слядоў.

* * *

Чый ахоўны анёл упадзе
І не ўстане з пабітых каленяў?
Разамкнуцца кругі на вадзе,
Сутыкнуцца за прорваю цені.

Абальюцца нябёсы агнём,
Захінуўшы сусвет дабрачынны.
Схамянецца забыты анёл:
«Не імкніся да зорак,
жанчына...»

У пяску праступаюць сляды
Прадсвітальнай расой асцярожнай.
І душа падпаўзе да вады,
Бо са следу напіцца няможна.

* * *

Ці ж ён суджаны?
Хто ж яго судзіць,
Што ў акне тваім свечку задзьмуў,
Хоць сустрэліся зоры і людзі,
Хоць рыпелі вароты яму?

Колькі ночак вянкі расплятала...
Колькі красак вяртала ў расу...
Сівым верасам
                    ложак заслала,
Пабялілі пялёсткі касу.

Шчырым снегам упалі Пакровы.
На заручыны ехаў жаніх,
І на вечнае шчасце
                    падковы
Прымярзалі да сцежак тваіх.

## ЧАКАННЕ

«Чакай мяне і вер,
що я прыйду.
Хоць праз жыццё.
Адно чакай і помні...»
Сыходзіць пад зялёную ваду
Адлюстраванне паслухмянай поўні.

«Адкуль, адкуль чакаць цябе?
З вайны?
Са смерці?
З ваўкалачае пасцелі?..»
Пабpоснелі на тым баку чаўны,
І груганы на вёслах скамянелі.

Жанчына там хапаецца за цень,
Галубіць даўні дым,
Што ў сне не сніла.
І ўжо мурожжа скрозь яе расце,
Дзе шчэ ўначы
трава
раку спыніла.

# ПАЖАР

...Як агонь прыгалубіў
                    скрыню,
Учарнелую ад жалобы,
Дык на веку,
          спрадвек нічыйным,
Навылёт прараслі
                    аздобы

З глыбіні, што і Бог не бачыў,
З-пад каросты
          бясплоднай сажы,
З аздаблёных шытвом гарачым
Спадкаёмых кашуль пасажных.

Распляталіся фарбы ў дыме,
Распраўляючы ўзор стракаты.
Дзіва:
Скрыня дымамі тымі
Разгарнулася скрозь па кантах.

Узнялася павольна ўгору,
Развінулася —
          чыста хуста!
І не ўзоры на ёй —
                    сузор'і —
Выцінаныя густа,
                    густа...

## ЛІЛІТ

Струменіцца белае семя
з чырвонага маку,
З прымятай травы
самасейны агонь выкрасае.
Бягу па нядобрых, па дзікіх,
па блытаных злаках,
Збіваю прыполлем расу
і пылок абтрасаю.

Шукаю ў тумане
апошні прытулак туману,
Пустыя шляхі
пазначаю тваімі слядамі
І рву
бескарэнныя травы —
і гоіцца рана —
Твой свет,
паламаны да сподняй рабрыны,
Адаме...

## ПАЭТКА

У высокай траве
загубіўся замоўлены яблык.
Па высокіх нагах
успаўзалі змяінкі расы.
«Дай мне крылы —
узняць вышыню», —
Ты малілася
Д'яблу
І праз вечнасць пачула:
«За крылы
душу аддасі?»

Калі зябкая свечка
ў п'янкім паслушэнстве мігцела,
Калі знічка сатлела
ў падкрыллі ліхога каня —
Ты пазнала свой голас васковы:
«Вазьмі маё цела,
А душы не чапай.
Прычакала яе вышыня».

Апантанае неба
зайшлося маланкай зблажэлай,
Паплыла пад залевай
цяжкая-цяжкая зямля.
І лунаў матылёк.
І сцякаліся гукі нясмела.
Вось і выраслі крылы.
Хутчэй затулі
немаўля.

## ГАЛАСНІК

Галаснік, галасі —
Хай нізрынуцца сцены
На знемлены брук —
Ты вярэдзь і трасі
                    сваё круглае цела,
Каб выбавіць гук.

Пад глухімі скляпеннямі
                    ў горлейку вузкім
Ці рогат, ці крык...
О жанчына,
Не жывіць збалелыя вусны
Пусты галаснік.

Ты плыла, як вада,
У рамонках, у брудзе,
У мроях сваіх,
Пераймаючы формы
                    ілжывых пасудзін,
Амаль што жывых...

Ёсць агністыя мукі —
                    скразную прыроду
Праліць цераз край.
Ёсць багністыя гукі,
                    нячутыя зроду, —
Паўтарай.

## НЕНАРОДЖАНЫ

Яшчэ патаемнае мора
пястуе жанчына,
Яшчэ выспявае дарога
пад хваляй крывой.
Вякі працякаюць
па рэчышчах жабравых шчылін,
І трызняць крыніцы
прагрэшнаю доляй жывой.

Часы здрыгануцца,
дрымотныя нетры парушаць,
У рванай прасторы
пустыя вятры заснуюць.
А розум
з крывавымі жабрамі
выйдзе на сушу
І голасам рыбы
пакліча матулю сваю.

І ў тайнай матулі
на сэрцы падвоіцца камень.
Між пеклам і раем
стамоўны
разгубіцца крык.
І постаці ўзыдуць
на ўсе берагі
на змярканні.
Плывіце!
Агнём аплывае святы мацярык.

## НІТКА

> Нованароджаную дзяўчынку загортвалі ў кашулю бацькі, толькі перад тым знятую.
>
> *З радзіннай абраднасці*

Да апошняе ніткі
                    рассіціўся змрок,
Як са свету па нітцы сабралі,
Як зрасліся ў адзін вузлаваты клубок
Цеціва
        і шнурок ад караляў.

Нескубаная воўна,
                    нячэсаны лён,
Залатая сцюдзёная пража,
Павута, што абраз абкладала здавён,
І смужына,
            што спрахла на сажу...

Як вузельчык завяжаш,
                        канцы абарві,
Прыхавай у прачыстай вадзіцы.
Косць ад косці вядзецца
І кроў ад крыві.
Скуль жа,
          скуль тонкай нітцы павіцца?

Глянь: у коўзкую цемру
                        наструніўся свет —
З каранямі кнаты вырывае —
так, што кожная жылка
                        трымціць напрасвет,
Так, што кожная нітка —
                        жывая.

* * *

Межавая дарога
ў засветнай зямлі заблудзіла.
Ля забытага дома
змяшаліся з граззю сляды.
Мой народзе,
Табе я
чужую дачку нарадзіла:
У паўкроўцы
палова крыві і палова вады.

Высыхае крываўнік—
і гоіцца вецер у полі,
Уцякае ад лёсу
сем вод
У кісельнай імгле.
Ўсе шляхі і дарогі
да краю засыпаны соллю.
Чорны бохан надзённы
Самотна ляжыць
На сталё.

* * *

Дзіцячая бялізна робіцца са старызны.

*Прымаўка*

Можа, вяртаецца мора назад,
да пачатку?
Стукае ў бераг крынічка
салёнай бруёй.
Перакладаюць вятры
непазбыўную складку —
Сохне кашуля, пакорная долі сваёй...
Долі —
у горкім тумане збялець і не ўцяміць,
Што раніцою раса выпадае няўзнак.
Як у маленства сціскаецца
позняя памяць, —
Згорне здабычу
ў малую кашульку
скразняк...

## РУСАЛКА

Салёная кропля
у расплеценых жылах зямлі.
Сухая слязінка
на рэчышчы, гладкім суздром.
Не помню,
хто з ліхам ішоў да вады,
хто з дабром —
Усе па глыточку
з аблічча майго адпілі.

У многіх вачах
люстраванне маё аджыло.
Чужое дыханне
сасмяглую пустку кране.
Глінянае люстра.
Цярусяцца пыл і святло.
Зірні, падарожны:
зямлісты адбітак на дне.

## ЗІМОВЫ СОНЦАВАРОТ

У свеце дзеецца няшмат...
Надзею й страх
з аблічча сцёршы,
Пастукае прадвесце страт
У скроню мне
сівінкай першай.

Змаўчыць клубочкам у кашы
Сутоння ўтульнае свячэнне.
Прысядзе зорка край душы —
Бялюткай нітачкі сячэнне.

Якую долю сцерагчы?
Якую волю піць дасхочу?
Сцяжынка месячнай начы —
Сумоўца лініі жаночай.

Яна праб'ецца напраскі
Пякучай кволасцю раслiннай
Туды, дзе, зветрыўшы лісткі,
Трымціць імя маё:
Галіна.

## ДЗВЕ СТАЛІЦЫ

Каму скарыцца і каму маліцца?
На замчышча, парослае зямлёй,
Ён узышоў і мовіў:
«Будзь сталіцай,
Прылюднаю княгіняю маёй!»

На захадзе Венера дагарае.
Дзве ночы з жорнаў сеюцца
дваіх,
І срэбны цень чужога небакраю —
Чэрнь у аблíччах
месцічаў тваіх.

Над Свіслаччу не вежа —
вежавіца[1]
Сівее варажбіцкаю смугой.
Трымці,
мая цярплівая сталіца,
Ільдзінкай на люстэрку той,
другой.

І цешся,
што паненка-паланянка
Пакутуе ў вязніцы сна твайго.
Ці здрадлівая Лёсава каханка,
Ці верная саўдзельніца яго?

І вер: марозны вэлюм
рысы скрывіць
Класічныя,
як ружу — лёд.

---

[1] Вежавіца — травяністая расліна.

Але ж
Сачы
яе стамлёны гостры прывід
Штораз,
як Старавіленскай ідзеш.

## СОЛЬ ЗЯМЛІ

Я іду па начы,
　　　　　　　непрагляднай, відушнай,
І трывожнае сненне дыміцца за мной:
Вырастаюць крышталі
　　　　　　　　　　на ля́дах і пушчах,
Выступаюць крышталі
　　　　　　　　　　з падкоркі зямной.

Аканіцы, байніцы, пустыя сталіцы.
Скамянелі на пляцах сваіх
　　　　　　　　　　　　гарады.
І раса
　　　на іглістым крышталі бажніцы
Набіраецца вечнасці
　　　　　　　　　ў мёртвай вады.

Ані крык, ані погляд нічога не значаць.
Я жывая!
Каму мне пра тое казаць?
Чарнахмарка
　　　　　　　прыручаным ценем ягнячым
Апускаецца з неба,
Каб соль палізаць.

## СТРАХАР

Дзве плоскасці збягуцца ўраз,
каб абарвацца спешна.
Ушпіліцца гатычны дах
у нежылы прастор.
Узыдзе ўпэўнены страхар
на вузкае сумежжа.
На край сусвету, скуль сусвет
абсяжны,
што сабор.

Вятры будзённай вышыні
замітусяцца ў кроквах.
Раздвоіцца прамень святла
і схлыне ў два бакі,
Дзе злева
тлуміцца кірмаш
і брук блішчыць ад крокаў,
Дзе справа
спачывае глей пад скразняком ракі.

Калі ты ўзыдзеш на мяжу
і смертны погляд ніцы
Растане ў марнай марнаце,
бы камень у лісці,
Зірні ў нябёсы!
Ды з-пад ног імкнецца чарапіца...
Нашто хапаешся за крыж?
Узвысіўся — ляці!

## МЕНСКІ СКРАЗНЯК

Гарадскім скразнякам
                                        не хапае прасторы
Размахнуцца ў вятры,
Замахнуцца на лёс.
Перспектывы праспектаў
Развейвае горад
На няўтульны бясконцы крыштальны мароз.

Плошча — шкло ветравое.
Надзея шкляная.
Летні лёд вітражоў.
Заблуканы скразняк.
І куды ён імкнецца?
Каго ён шукае?
Не знаходзіць нідзе.
Не сустрэне ніяк.

Углядаецца ў твары.
Глядзіцца ў вочы.
Падбягае да ног.
Адбягае ад сцен.
І чырвоныя цені
                                пад вокнамі сочыць.
І ягоны гадзіннік не ведае змен.

Ён сціскаецца ў вузел, наскрозь невідомы.
Ля жытла,
                        дзе знябытыя дзверы гучаць.
На радзімым парозе
                                        нямігскага дома
Хоча кожны свой подых
                                        спачатку пачаць.

## КАЛЬВАРЫЯ. ВОСЕНЬ

Лісты, што гняздзіліся шчыльна,
У свет адляцяць
па адным,
Уздымуць
да крылаў птушыных
Паганскі струменісты дым.

І змусяць
дрыжаць і скажацца
У дымнай рухомасці
Крыж,
І чэзнуць, і зноў набліжацца
Да рысы,
дзе ў смутку стаіш...

## ПІТЭР БРЭЙГЕЛЬ СТАРЭЙШЫ

### I. Перспектыва

Выпадковая птушка,
                    даверся сляпому палёту
Ва ўчарашняе неба,
                    дзе сумам зацягнута сінь.
Над гатыцкім рудым лабірынтам
Заблытайся ўпотай
І мяне, быццам пёрка,
У перыстай дымцы пакінь.

Бесцялеснае пёрка
            ўсплыве аж да лёзных вышыняў,
Да асмужных дымоў,
Да скразнога спляцення шляхоў —
І адтуліцца горад,
Драбнейшы ад крылаў птушыных,
І на дзюбах сабораў
Спячэцца вячэрняя кроў.

Колькі ж, колькі надзея мая
                    прапаўзла лабірынтаў?
Колькі ж перайка тое
                    жар-птушак
                              магло б апячы?
Безнадзейнаю зоркай
            палаю ў прасторы адкрытай,
І цяжэ наўкол
Варанёнае пер'е начы.

Веру ў вольнасць —
Лунаць —
Каб ні твару, ні гуку, ні ветру

З тых завулкаў,
куды абгарэлыя пёры ляцяць.
Наглыталася птушка на ўзлёце
зямнога паветра
І баіцца над зоркай
Сцюдзёную дзюбу
расцяць...

## II. 1986. Шэсце сляпых

Подых
небам завецца.
Пазбытая смага —
ракой.
Да астатняга каменя
б'ецца аб крокі дарога.
Пераменлівы поўдзень
адчуўшы прыгрэтай шчакой,
На нябачаны бераг
Сляпы пераводзіць сляпога.

Прыдарожную зорку
навобмацак высветліў ён.
Пуцяводная цемрадзь
на кончыках пальцаў патухла.
А паплечнік прачуў
заінелы патрэсканы звон
З адваротнага свету,
Пабранага мохам аглухлым.

Пахіснуцца званы
ад сляпых красавіцкіх дажджоў.
Западзе на той свет
невідушчая ў смутку дарога.

Рукакрылая цемрадзь
сатрэ з раздарожжа назоў.
І нябачныя промні
Памоляцца чорнаму богу.

## III. «Трыумф смерці»

Гасне вечнасць
У рэтушных мёртвых абдымках.
У старых негатывах
не спіцца журбе.
Не глядзіся ў часы
групавых фотаздымкаў:
Не запомняцца
рысы натоўпу
табе.

...Адпачынку шукалі
ў пустой павуціне
Матылькі.
Раскрыжоўваў іх вецер сляпы —
Праявіліся ў свет,
бы калісь на карціне,
Між развеяных крыл
Чарапы,
чарапы...
«Хто душу,
а хто кроў
Не збярог ад суроку», —
Разгавеўся,
Гайдае
барвовы ліхтар.
У патыліцы людства
Прастрэлена вока.
Тое трэцяе вока
глядзіць на алтар.

## «АГОНЬ» ДЖУЗЕПЭ АРЧЫМБАЛЬДА

Што сярэбраны чэрап хавае
　　　　　　　　пад полымным вечкам?
Неабпальнае змесціва?
Звілістую пустату?
Колькі думаю й помню —
　　　　　　　　калышацца ярая свечка,
Прасвятляе глыбінна
　　　　　　　　аблічча майго прастату.

І ўжо верыцца мне:
У істоты, ахопленай жарам,
У матэры,
　　　　за нежывую лягчэйшай стократ,
Ёсць вяшчунны язык,
　　　　　　　перакінуты ў кнотава джала,
*Тое* званы спаліць,
Што калісьці не здолеў змалоць.

## ЯН ВЕРМЕЕР.
## «ДЗЯВОЧЫ ПАРТРЭТ У ІНТЭР'ЕРЫ»

Глыбокі кілім
набіваецца выцвілым сном.
Між рамаў заціснуты вецер
дыхання не чуе.
Я болей не днюю
ў пакоі з высокім акном.
На ложы за жоўтай атолаю
больш не начую.

Вянчальны світанак
бялейшы за небную столь.
Парожняя шыбка
У вапнавых пырсках навекі.
Затрызніла памяць:
«Туды павярнуцца дазволь,
Дзе ў сны
залаты матылёк
залятаў скрозь павекі...»
Спі, мілая, спі...
У дзявоцтве тваім і маім,
У матавым тле
ані ясачкі я не парушу.
І крылцам змятае жалобніца
ці херувім
З парога радзімага
Нашы вандроўныя душы.

## ПАРАЛЕЛЬНАСЦЬ

Паралельнасць з'яднае
і пругкасць зямных паралеляў,
І дзве вузкія сцежкі
абапал імклівай ракі,
І два даўніх каханні,
што ў сэрцы адным адбалелі,
І на белым лісце
апантаныя рыфмай радкі.

Паралельнасць
У важкасці рэек сталёвых прагляне,
У няўяўнай празрыстасці
медных, як звон,
праўдоў,
Што зліваюцца ў кропку.
Як здрада
і з ёй — апраўданне
На адлегласці гулкіх,
Паралельна пражытых гадоў.

Паралельна трывогам
Паралельныя леглі маршчыны
Пад вачыма каханых,
на маміным чыстым ілбе.
Мы шукаем прычыны,
Якія знайсці немагчыма,
Каб паверыць нарэшце,
Што жылі
паралельна
сабе.

## ЗАЛА ЧАКАННЯ

Гэта зала чакання
расцягвае час
часовасць,
Нібыта спружыну у струнку,
Калі дзень —
як навыраст
І тлум —
напаказ,
Ані сілы спружыннай,
Ні чуйнасці гулкай.

Вось дзе можна схавацца
за ўяўны падман,
Між былым і між будучым
стаць асцярожна...
І адкладзены рэйс.
І звычайны туман.
І сляпой электронікі
Бездапаможнасць.

І суладна
няпэўным птушыным правам
Прытуліцца да крэслаў
казённа-вялікіх,
Нечакана спыніцца
між «тут» і між «там»
У ніякай прасторы,
Ніякім адліку.

І спакойна маўчаць.
І чакаць вышыні,
Як любові святой,
Як другога дыхання.

І вучыцца цярпенню
на многія дні.
Прыпыніцеся:
доўгая
зала чакання.

## ПАСАЖЫР

Прышпіліся да крэсла,
Каб цешыцца ўяўнай бяспекай.
На Зямлі
адарвіся
Ад ліпкай зямной мітусні.
Апусці святлафільтр,
Бы тое ты робіш спрадвеку,
І задоўга да ўзлёту
Газету наўсцяж разгарні...

Выпадкова зірні
на плашчыну аблокаў халодных,
На зашклёнае сонца,
што стала чырвоным няўзнак.
На надвор'е ў душы.
Там туманна. Там сёння нялётна.
Там нябёсы пустыя, бы кут,
дзе мясціўся руказак.

## СТАТЫКА РУХУ

Статыка руху.
Статыка дзеі.
Сонныя твары. Плацкартная стома.
Вочы, што міма мяне глядзелі.
Шыльда на станцыі невядомай.

Станцыя, я да цябе транзітам
Піць мутны кіпень,
Дыктара слухаць,
Есці прывабны яблык нямыты
З мноствам бактэрый
Статыкі руху.

Шэры вакзал,
[illegible] прагрэсам забыты
І непрыкметнасцю безыменны.
Колькі такіх праз мяне
Транзітам
Вечнанязменных,
Воку — імгненных?

Колькі паўстанкаў, што зноў праеду
І не адрозню?..
Крамяна.
Глуха.
Бачыла безліч куткоў,
як гэты,
І адчувала
Статыку руху.

## ГАДЗІННІКАВАЯ МАЙСТЭРНЯ

Гадзіннікаў — на вечнасць,
у запас.
Ды ўсе стаяць,
Наручныя і з боем.
Здзіўляюць цыферблаты разнабоем,
Але маўчаць, бо кожнаму —
Свой час.

А чалавек да лупы прырасце
І доўга будзе ў механізме корпаць.
Прадонна блісне металічны корпус...
А можа,
ў пустату глядзець прасцей?..

«Да цёмнай глыбіні спускаўся рух!
Трывожна біўся пульс пад цыферблатам!» —
Даследуе гадзіншчык,
як анатам,
І ажывае недажыты круг.

Гадзіннік
Зрушыць стрэлкай пакрысе...
Ці здрыганецца, як дзіцяці ў сне, ён...
Што ж, уваскрэс.
Дык мо паразумнее
І стане жыць
хоць зараз
Як усе?

## СПРУЖЫНА

Адвіруе ў галактыцы скручанай
сонечны вецер
І спіральную памяць
у клетачных ядрах
кране.
Я нанова жыву
ў механічным напружаным свеце,
Што двухвострым сталістым гудзеннем
напяты ўва мне.

Паўтарэнне — на многія леты...
І моцы дастане,
Каб убок саступаць
след у след,
Аж пакуль ад хады
Не заные
У сёмым калене
маё невяртанне
Да іржавага выраю
Звеку стаячай вады.

Хто ж цябе ў сем пагібеляў гне,
Часе мой сямімільны?
Хто ў бязвыйсныя жылы
віры крываносныя
сплёў?
Падзаводзіцца ў кожнай кляцінцы
гадзіннік фамільны
Ад нявольнай спружыны —
Сямі недажытых нулёў.

* * *

Смалісты след на высахлым палене.
На чорным снезе белыя гракі.
Інтэлігенты ў першым пакаленні
Мае бацькі.
Мае праваднікі.

Пылок лілейны на высокім лобе.
Зялёная былінка ў валасах.
Атрамантавай пошаснай хваробе
Нявыбраная памяць —
у пасаг.

З той памяці цвілі
сухія браткі
Паміж старонак
вынетраных кніг.
Туліліся бязважкія закладкі
Да пераплётных карнявых фастрыг.

Мой горад рос
на падваконні мулкім
З пабітага ў дарогах чарапка.
І я,
нібыта ўскраінная вулка:
Душою не з насення —
з чаранка.

# СЛЮДА

Якую б тонкую пласцінку ні адшчапіў, яе і далей расшчэпліваць магчыма — аж да таго часу, пакуль не адшчэпіцца танюсенькая. Гэткімі пласцінкамі вокны і шкляць.

*Нямецкі мінеролаг XVIII ст.*
*В. Гатшалку*

На захадзе слаяцца даляглады...
Бацькі і дзеці.
Коўзкі шлях слюды.
За шыбкаю зацепліцца лампада —
Рассеецца святло.
Каму?
Куды?

Пласты гадоў
кладуцца папярэчна.
І дзе шукаць
свае глыбіні мне,
Калі, адчуўшы рух святла
сустрэчны,
Акружкай[1]
пакаленне саслізне?

Яму наканаваны
лёс сярэдні,
Умураваны ў шыбак чараду,
Дзе кожная
ў патыліцу суседняй
Глядзіць
скрозь блізарукую слюду.

---

[1] Луста хлеба, адрэзаная праз увесь бохан.

## ЛАНЦУГ

Пустацелае рэха шыпіць наўкруг,
Захрасаючы ў звенцы кожным.
Пасярэдзіне неба
вісіць ланцуг,
Пустазвоніць звяном апошнім.

Чуеш: неба рыпіць —
То па ланцугу
Ад захмарных знячутых звёнаў
Апускаецца долу
вандроўны гул,
Каб памкнуцца ўгару стамлёна.

Чуеш: цяжкі ад ведаў і ад іржы
Павяртаецца гук да споду...
Немаўлячае звенейка,
не дрыжы,
Гэта не па тваю свабоду.

Разгайдайся ў паземных кружных вятрах,
Пустазвонь хоць да небакраю.
Кліч задрэмле
ў нацёртых тугіх вузлах
І ґукання твайго счакае.

# КАВАЛЬ

Набіваўся гасцінец
слядамі іржавай адлігі.

Радаводнае мора
чаплялася за берагі.

Ты каваў ланцугі —
Аджыўляў кайданы і катвігі[1],
У пякельным агні
Замыкаючы лёсы ў кругі.

А сыходзіла сонца —
У звенейку ценькім зіхцела
ўтаймаваная знічка,
Ад ветру губляючы зрок.
Так душа праступае сцярожка
Скрозь чорнае цела,
Праз адкрытую рану цячэ
незнарок
на той бок...

Дабяла распаліўся пад молатам
водсвет крывавы.

Што ты зноў пра душу?
Ей жа *кроўнае* ведаць не след.
На жалезе настоена тайна
і роду, і сплаву.

Звенца шчэміцца ў звенца
і бокам выходзіць на свет.

Ланцугі,
Ланцугі закаваліся ў нашы імёны...
Даляглядны ланцуг —
у нябёсы глядзі і жыві:

---

[1] Катвіга — якар (*гіст.*).

Хай смяротны твой крык —
зводны брат яго ціхаму звону,
А на звенца не хопіць
і ўсёй лажыццёвай крыві.

## КАМЯНЯР

Шліхтуй навек.
Здымай замшэлы пласт,
І гладкі з ім,
І літары-вачніцы.
Цячэ з-пад рук пясок
цяжэе час...
Ці ж лёс
таму патопу прыпыніцца?

Плыве —
і выплывае з глыбіні
Не золата, не плаціна цяжкая,
А зернейка
такой велічыні,
Што, як пясок,
ад пальцаў уцякае...

## ПЯСКОВЫ ГАДЗІННІК

...Не спынімся аб вечным гаварыць,
Пакуль праз далі космасу шклянога
Перацячэ адмераная ніць,
Рассыпецца...
Нікога і Нічога...

Цяжкі адлік спачатку распачнем.
Мінулае павернецца прывычна.
Чарговая надзея праслізне
Між пальцамі
пясчынкай
Безаблічнай.

А зарапад, прасеены наскрозь,
У закутках часоў
Мяжу сустрэне.
І што нас абышло —
пясок ці лёс?
Што зданіцца —
зваротнае падзенне?

І будучае з'есціцца былым.
І спадзяванне ўсцешыцца ўспамінам.
І, сцятае дыяметрам малым,
Адважыцца імгненне
На прыпынак.

## ГЕАМЕТРЫЯ ЧАСУ

Адветрылі гады,
Вякі сплылі
Скрозь дзень адзіны,
Шчыльны,
                што каменне...
Празоры гук
                  хвалюецца ў Зямлі —
Пакорліва дачуліся калені...

«Хто здолеў
                на каленях
                                шлях пачаць?»
Маўчыць паветра.
Сцішыліся воды.
Нямыя крокі
                  ў камені гучаць —
У сцятай глыбіні
                        пустой пароды.

## ПЛЫНЬ

Дзве вечнасці.
Вада і камень.
Ваду адмераў Геракліт.
Плыве пясок,
сцякае памяць
З антычных выветраных пліт.

Дажджынка колішняй надзеі
У пыл здарожаны ўпадзе.
Зваротны шлях закамянее
І схлыне
ў дажджавой вадзе.

Дашчэнту вынетраць граніты.
І адгайдаецца струмень.
І адгукнецца маналітна
Украй распырсканы прамень.

І вадзяны гадзіннік стане.
І пойдуць па пяску кругі.
Плынь часу
праціскае камень,
Калі ўзвышае
Берагі.

## ЛЁД

*Memento mori*

Безыменныя плыні
застынуць суздром, навылёт,
Толькі ў смертнай былінцы
мароз адгукнецца па-свойму...
Усё цячэ і змяняецца —
і адмыкаецца лёд.
Выпускае з-за кратаў расу
у каменную пойму.

Час мінецца?
Лёд некалі выграніў возера —
Глянь!
Неадрозныя
марныя плыні
І нябнаму воку.
Але вось у глыбінях даспела
алмазная грань —
І азорыла цемру
крыштальная яснасць вытоку.

Бі, крынічка.
І хай не звядзецца
сцюдзёны твой род!
У яго ты імя пазычаеш —
таму і жывая.
А сырая зямелька нашэптвае:
«Помні пра лёд...» —
І зялёнай пялюшкай аеру
цябе спавівае...

## КРОПЛЯ

Забытая кропля на зжоўклым лісце
Асветліла думкі
спарожненых клетак.
Праменні,
няшкодныя той пустаце.
Звіліся ў клубок
і паснулі да лета.

Чакай жа,
чакай жа былога святла,
Няздзейсненых леташніх мараў
прытулак!
У мёртвае вусцейка
кропля спаўзла
І неасцярожна за край зазірнула.

І шлях нечаканы,
як нітачка, змок,
І ліст перасмяглы
памкнуўся высока,
Калі ад вузла пакаціўся клубок
На волю
Да самых забытых вытокаў.

## ЛЕДАВІК

Ім сказалі:
— Бярыце крыжы і нясіце
Аж да самага краю
нічыйнай Зямлі,
Там за праведны шлях
лепшай долі прасіце...
Пахапалі навокал крыжы і пайшлі,

Пассякалі, як дрэвы
з кладоў несхадзімых,
Абчасалі з камлёў векавыя глыжы.
Знеслі знакі
з усіх раздарожжаў радзімы.
Пазбівалі з вышынь галубіных
крыжы.

Як сумленна ішлі
ад дзяцей і сядзібаў,
Аж зямлю праціскалі цяжкою хадой!
І ўсплылі угору днішчамі
рэкі і рыбы,
І зайшліся дарогі
каменнай вадой...

## РАКАВІНКА

Азірнуся —
Сыходзяцца ў кропку цяжкія кругі,
Вадзяністую памяць
сціраючы з гладкай паверхні.
Нібы зрэнку павекі,
абступяць прасвет берагі —
І не стане вышыняў,
І зорка зямная памеркне.

Апускаюся ўглыбкі.
Цянёты зялёныя рву,
І мядуз абмінаю,
І морак мяняю на морак.
Загарнуўшыся ў цені,
праточнаю кветкай плыву.
Наліваецца завязь часоў
за пялёсткамі створак.

Ад спакою,
што крыгаю вечнай блішчыць на вадзе,
Да спакою,
што мудра сплятае сужылкі цячэнняў,
Пурпуровая цёплая нітка
за мною вядзе,
А душу ўжо
каменнае белае рэха
пячэ мне...

## КАЛОДЗЕЖ

Можа, збочвае дно,
калі цiснецца ў пекла
Разводдзе?
Можа, ў свечцы крывой
выгнiвае няпалены кнот?
Зноў блукаюць глыбiнi
У цьмяным маiм радаводзе,
Скуль няроўную нiтку
штовеку вядзе калаўрот.

Сядзе працi дзяўчынка —
далонькi кудзеляй паколе,
Верацёнца ў падзеннi
святлом павукi абпрадуць.
I ў сучассе
ваўняная цемра саб'ецца ў прыполе,
А з размытага дна
даплыве да душы
Каламуць...

## РАКА

Вершнікі збеглі ў цёмнай пагоні,
Іх адлюструюць іншыя плыні.
Дзікія коні,
                    палонныя коні,
Шчодрыя рэкі ёсць на чужыне...

Доўга іржалі ў хроснае неба.
Чыста шляхі з капытоў адмывалі.
І ўспаміналі чорную глебу.
І дапівалі чырвоныя хвалі.
Да дна.

# ВЕРШНІЦА

І [illegible] паглядзеў, і вось конь бледны,
а на ім вершнік, якому імя
смерць.
І пекла ішло за ім.

*Апакаліпсіс: 6, 8*

Судны час
паўраспаду дзяржавы.
Змрок
другога прышэсця
Крыжа.
Успаўзае світанак іржавы.
Абтрасаецца з неба іржа.

Выкрасае са зброі і зброі
Адлюстроўкі чужога агню.
Сокал ясны,
лячу за табою.
Паганяю, ды не даганю.

Назірк проставалосай паходні.
Днём з агнём —
Звар'яцелы мой шлях.
Над зямлёю славянаў усходніх
Бледны конь
І парожні абсяг.

Бел-чарнобыл-бялюткая грыва
Пераплецена горыччу траў.
Азіраюся:
Бог палахлівы
На тры ветры
касу разабраў.

## ДВУБОЙ

Між блізнятамі-ценямі
рухнулі боскія сцэны.
І ўзарлілі плашчы.
І аплавіла хуткасць
падковы.
Вой крыжацкі
У ясны мой шчыт зазірнуў выпадкова.
Мо уласнага гневу злякнуўся?
Загінуў імгненна.

Пыл устаў на дыбкі.
Меч варожы ўсадзіўся ў дарогу —
Чыста крыж!
Я жагнуўся.
Ні ветру, ні звера наўкола —
Ні душы.
Толькі жах мой,
Загнаны пад сталь забарола,
Як смяротная рана,
схаваны ад вока людскога.

## ДАРОГА

Упіраюцца ў вечнасць канцы.
Самасей каляіны руйнуе...
Той дарозе заўсёды нясці
Град нябесны
і пáру зямную.

Толькі вецер скрыжуецца з ёй —
Стане камень над шляхам курыцца:
Даляціць да дарогі чужой
І назад азірнуцца збаіцца.

І ад неба адлучыцца птах,
І сляды
адкрыжуе па пылу —
Папаўзуць па запалых крыжах
Аб Зямлю
перабітыя крылы.

## МАНЕТА

Птушыныя крылы
І профіль арліны,
Разлучаныя непраглядНай сцяной,
Пякуцца двудушнаю формай адзінай,
А трызняць
нязбытнаю доляй адной.

Каб профілю тому —
ды позірк вышынны!
Каб крылам зацерплым —
дзяржаўны размах!
Рассечаны свет
неразменнай рабрынай:
Ці ноч,
а ці дзень выпадае?
Ці птах?

Бязмесячнай цемрай
ты ўзыдзеш за хмарай,
Паціху развеешся,
сплыўшы святлом...
У вечнасці дрэнная памяць
на твары.
Што голаў хаваеш
пад шэрым крылом?

# ДЗВЕ ПТУШКІ

Змяняў галубку на саву.
*Прымаўка*

Галубка:

Ціха схлыне
расстайнай затопы вада,
Ціха з неба спушчуся
на глей першародны —
Не сягнуць мае крылы
да краю Гнязда —
На край свеце яно
абарвецца халодна.

Я на горкую цвердзь
скрозь нябёсы саб'ю,
Каб і кволенькі гук
адлятаў навылётна.
Не крыло ўжо —
сам голас
табе падаю...
Незваротна...

Сава:

Ад прадсвітальнай
ветранай разлукі
Глухую ноч
хаваю пад крыло.
Як перайкі,
перабіраю гукі,
Што залятаюць у маё дупло.

Сама ўжо рэха,
я люструю рэха,
Забыўшыся на музыку сваю.

Крывы адбітак
посвісту і смеху
На ціхі лад начны перапяю.

Дупло і ліпа.
Мёртвае й жывое
Зрасліся —
хто ж каго перажыве?
Маўчыць, як скрыпка, дрэва векавое.
Лісцё і пух
у леташняй траве.

## ГНЯЗДО

Там, дзе зоркі маўчаць,
як Хрыстовы цвікі,
А туманы нябачныя хмарам,
Пералётнае лісце
аголіць сукі,
І гняздо
вышыню абцяжарыць.

Чорны бусел на перыстым золку глухім
Праслізнуў над гняздом азалелым.
А з нябёсаў —
не яйкі бялеюць у ім,
Касцянеюць, зрастаюцца стрэлы.

Апярэнне са стрэл
замялі скавышы.
Сівер мёртвае пер'е раздзьмухаў.
Снег
стамлёныя прастрані зацерушыў.
І ляціць.
І зямля яму пухам.

## ВЕЦЕР

І цнатліва народжаны атамны вецер
Да краю
прадвесце данёс:
На забітай зямлі,
дзе забыты народ памірае,
Прызямліўся Хрыстос.

І сышоў да яго
з людам божлівым простагаловым
Той вецер-прарок.
І, спаліўшы цярновы,
усклаў на чало
палыновы
Вянок.

* * *

Ноч звар'яцела
з цемрадзі нішчымнай.
Павялі свечкі ў кінутай царкве.
З заплаканай сцяны
сышла жанчына
І рушыла па пояс у траве...

Чыя хаціна?
Ні агню, ні дыму...
Пустыя вёдры выйшлі на парог.
Над ручнікамі з дрэвамі рудымі,
Над хаднікамі
Мёртвы пыл пралёг.

Зваўчэлыя сабакі ўзвылі блізка —
Дух чалавечы
незнаёмы ім.
Свяцілася астылая калыска.
Чарнеўся німб над боханам сухім.

І мовіла Марыя,
ўзняўшы вочы:
«Які ж быў грэх,
калі такі праклён?»
І да грудзей яе
гарнуўся хлопчык.
І з малаком
смактаў атруту ён...

# БАЛОТА

Месцамі ў вокнах балотных
усплывалі аскабалкі мачтаў.

*З легенды*

Ціша сеецца ў багну
на звышгукавыя глыбіні
І бяссільна ракоча,
як попел у сэрцы зямным.
Нездабытыя руды
ўсплываюць густым аржавіннем —
І рудзее абшар,
І сасоннік люструецца ў ім,

І з рассунутай твані
ўздымаюцца птушкамі промні
Ў апраметнае неба,
У пыльны бяздушны зеніт.
Безназоўныя зоркі,
мінаючы мёртвую поўню,
Угрузаюць па самыя вочы
ў сляпы аксаміт.

Нескончальны распад шэрых ценяў,
дрыгвой засмактаных,
Атруціў радаводную студню
і глебу саскроб
У падземнае мора,
У хвалісты змрок акіяну,
У апошні, багамі забыты,
Сусветны патоп.

Да сухога Палесся
па сховах скразнога бяздноўя
Узняліся ашчэпкі каўчэгаў
і вечных ільдоў.

Выкідаецца котва,
пазбыўшыся глузду і мовы,
На нязнойдзены бераг
да цёплых дзіцячых слядоў.

* * *

...І з сялянскай пакорай
прымала хаціну Зямля,
Што нікому нідзе
не адмовіла ў вечным спакоі...
А ўначы
зварухнуўся над комінам груд спакваля —
І павеяла гібельным дымам
да зор навакольных.

Хто ж абмыў цябе,
Хата,
жывую шчэ, хмарным крылом?
Хто ж па госцевай звычцы
не выграб ні пылу, ні смецця?
Прараслі абярэгі,
звязаўшыся мёртвым вузлом.
У выродлівым пыльным насенні
заруліўся вецер.

Пераможнае сонца
ў апромець плыло на шчыце,
Уцякалі нябожыя промні
з драўляных крыніцаў.
А падстрэшнае неба
да хмараў вось-вось дарасце,
І вароны ўдзяўбуцца, усмокчуцца
ў шкло вачаніцаў.

* * *

На Палессі
ці ў Панямонні
Звандраваўся адзіны сон:
Нарадзіўся з пустога ўлоння
Двух'языкі мутантны звон.

Сам сваю разгайдаў калыску,
Азірнуўся ва ўсе бакі,
І — ні крыку,
ні хоць бы піску —
Заплятаюцца языкі...

* * *

Пчала схавала стомленае джала.
Узмежны камень сцёрся на жарству.
А меч,
        перакаваны на арала,
Урэзаўся ў глыбокую траву.

Вярыгі каранёў скідала глеба,
Прымаючы насенне на спачын.
І з вывârату дзён
                    раслі да неба,
Хто быў нічым.
І хто не быў
                ні чым...

## МАЛАЯ РАДЗІМА

Ад радзімы,
бязбожна вялікай,
Да радзімы,
бязмежна малой,
Спеў грудны нечакана паклікаў
З чорнай ранкі
пад крыўскай стралой.

Каранямі трымае той голас
Сяродземную нашу зямлю,
Ды палеглы на корані
колас
Засявае чужую раллю.

Западаюць сухотныя нетры.
Дагнівае балотная гладзь.
Еўразійскія гіблыя ветры
У залатаных ветразях
спяць.

## БЕЛЫ ЛЁН

Славяншчына.
Вякоў зямны паклон
Тканіне,
Што жыццё ўвабрала ў колер.
Сувойны шлях раскруціцца на полі —
І ад святой расы святлее лён.

Бруіцца белай радасцю абрус.
Ён хлеб спавіў!
І поўніць святам хату
Вясельны колер, сціплы і багаты.
І цешыцца надзеяй беларус.

Бялюткі лён!
У дзень любы і год
Чыё ты бласлаўляў каханне
ўпотай?
Ды ў будзень даўка-горкі прысмак поту
Табе адзінай быў з узнагарод.

Незамяняльны ў шчасці і ў бядзе,
Ззяў чысцінёй, спрадвечнай, як сумленне.
Бялела першароднасцю адзенне,
Як надыходзіў самы чорны дзень.

З'яўленне, праца, аднаўленне, скон —
Кірунак чалавечы, вечны вектар.
Яднае белы промень фарбы спектру.
Нясе ўсе фарбы свету белы лён.

## БАЛТЫ

Мы помнім...
Мы помнім з дасвецця
радзімае мора.
Мы спадчынна чуем
у кожным прыліве крыві
Стамлёнасць глыбіняў,
Зваёванай солі пакору,
Загуслую помсту
І шэпт плаўніковы:
«Плыві».

Прысніцца жанчыне
спавітая воблакам выспа.
Прымроіцца вою
заморскага ветру страла.
А Нёман лясны
разгайдае чаўны і калыскі:
То з хваляй
Чыясьці апошняя лодка сплыла...

На вогненны покліч астатні
душа прыляцела,
З расталага цела
вужакаю выпаўз хрыбет —
Вяртайся ж, змяя, да зямлі,
што не мае падзелу,
Да мора,
забранага продкамі ў новы сусвет.

Здранцвеюць ваўкі,
а багі адхіснуцца пужліва,
Калі падвартуем у пушчах бязмежных
Свой час.

Тутэйшыя ворагі
                    рэкамі клічуць
Адлівы —
З наступным прылівам
Павернецца мора
                    да нас.

## МЛЫН БЕЛАРУСКІ

Млын,
зацэнены лісцем стрымцелым і чорным,
У міжрэчную выспу забіты,
бы кол,

Круціш духам якім
ненажэрныя жорны,

Мелеш чорту якому
зярністы падзол?

То пратнуцца нябёсы
арліцай залётнай.

То патоне
прыблудных варон чарада.

То з усходу на захад,
То ў бок адваротны
Без дарог
круціць хісткае кола

Вада.
Дзе ж той волат,
што выспу падніме на плечы

І стрывае ў няўмольнай
чужой пустаце,

Аж пакуль азярынка
на ростані рэчак,

Як дзіцячае цемечка,
Не зарасце?..



## ЗМЕСТ

**Булыка Г.**

Б90 Турмалін: Вершы. — Мн.: Маст. літ., 1994.—94 с.

ISBN 5-340-01398-7.

Філасофская лірыка Галіны Булыка мае нямала прыхільнікаў. Паэтка імкнецца глядзець на навакольны свет праз магічны крышталь вобразаў, адметных для нашай паэзіі, адчуць у заканамернасцях будовы рэчыва і прыродных працэсах глыбінную сувязь са светам чалавека. Аўтарка ўздымае тэму творцы і наканаванай яму долі. Трагічны пафас уласцівы вершам, у якіх Галіна Булыка імкнецца асэнсаваць шлях свайго народа. Водгулле сусветнай міфалогіі і славянскага фальклору чуецца ў радках, прысвечаных вечным тэмам кахання, мацярынства, жаночага лёсу.

Б $\frac{8820600000-083}{М302(03)-94}$ 34—94 ББК 84(4Беи)6

*Літаратурна-мастацкае выданне*

БУЛЫКА
Галіна Аляксандраўна

Турмалін

*Вершы*

Рэдактар К. Я. Жук
Мастак А. І. Карповіч
Мастацкі рэдактар А. М. Малышава
Тэхнічны рэдактар Г. П. Тарасевіч
Карэктар К. У. Дзмітрыенка

Здадзена ў набор 23.06.93. Падп. да друку 15.04.94. Фармат $70\times90^{1}/_{32}$. Папера афс № 2. Гарнітура літаратурная. Афсетны друк. Ум. друк. арк. 3,51. Ум. фарб.-адб. 3,66. Ул.-выд. арк. 2,87. Тыраж 1500 экз. Зак. 716.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Міністэрства культуры і друку Рэспублікі Беларусь. Ліцэнзія ЛВ № 3. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Друкарня «Перамога», 222310, Маладзечна, вул. В. Таўлая, 11.